## 6

Там, на кухні, разглядваючы вінную этыкетку, я і адчуў, што *ў кватэры прысутны хтосьці яшчэ*. Раптоўнае адкрыццё змусіла перахапіць неадкаркаваную пляшку за рыльца. Пасля кароткага роздуму я перакінуў гэтую зброю ў левую руку, у правай сціснуў самы вялікі кухонны нож і асцярожна ступіў у калідор.

Першае павярхоўнае абследаванне кватэры не прынесла ніякіх вынікаў. Надзейныя дубальтовыя дзверы на лесвічную пляцоўку былі на моцнай металёвай засаўцы. Пластыкавыя вокны прачыненыя зверху, і ў іх, апрача мух і камароў, маглі заляцець хіба што матылёк і, пры моцнай ахвоце, верабей.

Але адчуванне чужой прысутнасці не пакідала, а рабілася мацнейшым. Яно прымусіла рассунуць у спальні дзверцы шафы-купэ і перабраць вешакі з сестрынымі сукенкамі, каб упэўніцца, што за імі або ў іх саміх ніхто не затаіўся. Зазірнуўшы дзеля прыліку пад ложак і напалохаўшы порсткага павучка, я з парога зноў уважліва абвёў позіркам гасцёўню. Упэўніўся, што нікога няма ні ў кабінеце, ні ў маленькім пакоі паміж спальняй і кухняй, які некалі служыў у бацькоў спальняю для гасцей. У вітальні я падміргнуў расхваляванаму чалавеку ў вялікім авальным люстры. Чалавек з люстра міргнуў у адказ, тым самым сведчачы, што з ягонай прасторы ў маю ніхто пакуль што не патрапіў. Праінспектаваўшы прыбіральню з лазенкай, я вярнуўся да круглага кухоннага стала і ўсё ж вырашыў — перадусім дзеля

супакаення — выпіць віна. *Перапрацаваўся*, паспрабаваў я ўголас растлумачыць свой стан, ды атрымалася зусім непераканаўча.

Корак з пляшкі выйшаў так звонка, нібы шніпар быў у руках у некага іншага. *Нервы... Яно, можа, і не дзіва, калі ўзяць пад увагу, ш т о ты пішаш*.

Мая аповесць, умоўна кажучы, прысвячалася самнамбулам. Спярша гэта былі трое дарослых — Настаўнік, Залацістаўвалосая і Кіяскёрка, а таксама двое падлеткаў — Гімнастка-васьмікласніца і крыху старэйшы за яе хлапчук, ад імя якога і распавядалася тая гісторыя. Ён быў адзіны, хто, прачнуўшыся, усё памятаў, таму што раней бачыў адбытае і на яве.

Самнамбулы збіраліся з розных канцоў горада на даху недабудаванага закінутага гатэля і танчылі пад зоркамі, каб пасталець, згубіцца ў вялікім свеце і зноў — каму пашанцуе — сустрэцца ў маўклівым паўночным танцы ў памяць пра тых, хто танчыць на дахах ужо ў тагасветных гарадах. Разам з людзьмі ад самага пачатку танчыла Котка — нібыта звычайная трохколерная бела-чорна-рудая рыска, аднак з дзівосна доўгім хвастом, які, перакінуты на спінку, даставаў да вушак. Потым у аповесці павінны былі з'явіцца яшчэ два нешараговыя персанажы — Паэт і карузлік.

Шыраз трапіўся сапраўдны — густы, цёмнафіялетавага колеру, букет, як і ўласціва гэтаму віну, бліжэйшы не да садавіны, а да спецыяў, з выразнымі смакавымі адценнямі шакаладу і чорнага перцу. Адмыслоўцы, згадалася мне,

нездарма называць шыраз віном пачуццёвым ці нават непрыстойным.

Ды падмануць сябе не ўдалося: думкі пра віно існавалі самі сабой, а ўся істота наструнена прыслухоўвалася да кватэры, прымушаючы ўнутраны зрок зноў, пачаўшы ад спальні, сканаваць пакой за пакоем.

Праз колькі імгненняў келіх з віном ледзь не выпаў з рукі. Цяпер я ўжо напэўна ведаў: *хтосьці ў кабінеце*. Прысутнасць гэтага *кагосьці* лакалізавалася на зялёнай велюравай канапе. Вольна адкінуўшыся на падушкі і паклаўшы нага на нагу, на канапе сядзеў... абсалютна чорны чалавек.

## 7

Каб авалодаць сабой, я зрабіў глыток, затым другі і трэці. Шыраз цалкам страціў нядаўнія ўласцівасці, перайначыўшыся ў шараговае пітво айчыннай фірмы *Ambassador*, якая з аднолькавай сыравіны паспяхова выраблялa амаль што ўсе на свеце віны. Я механічна дапіў келіх і падняўся. Сказаўшы, што дзейнічаў рашуча, я нахабна б схлусіў. Праўдзівым было іншае слова — зацкавана. Аднак я зрабіў некалькі крокаў, выйшаў у калідор і, таймуючы сэрца, асцярожна зірнуў у прачыненыя дзверы майго часовага кабінета. Як і чакалася, там нікога не было. І разам з тым *ён*, бясспрэчна, знаходзіўся ў гэты момант на канапе.

Зноў апынуўшыся на кухні, я зразумеў, што здолеў разгледзець *яго* лепей. Першы раз

здалося, быццам Чорны чалавек голы, але на ім выявілася нешта накшталт цёмнаатрамантавага, з лёгкім серабрыстым адлівам трыко. На нагах ён меў чорныя, нізкія і пляскатыя пантофлі з даўгімі, загнутымі ўгару мыскамі. Такі абутак можна ўбачыць на палотнах старых майстроў ва ўборах прыдворных блазнаў, хоць мой няпрошаны госць выдаваў на каго заўгодна, але не на блазна. З тае прычыны, што ён сядзеў, рост вусцішнага візітанта заставаўся нявызначаным, і пра яго мне наканавана было даведацца адно праз два тыдні.

Спадабаўшыся самому сабе, я даволі спакойна выпіў другі келіх шыразу. Рука не трымцела, віно вярнула сабе смакавыя якасці і прыемна паколвала язык.

Чорны чалавек, які рабіўся невідочным, калі я зазіраў у кабінет, і матэрыялізоўваўся, як толькі я адводзіў пагляд, ані не нагадваў абліччам мурына — ні класічнага жыхара экватарыяльнай Афрыкі, ні чарнаскурага амерыканца. Не выдаваў ён — тут, мяркую, са мною пагадзіўся б і Тэрэнцыян Маўр — і на жыхара Магрыбу, дзе мне калісьці пашчасціла тыдзень павандраваць і нават выключыць з гульні двух скарпіёнаў,

Еўрапейскія рысы твару, у меру высокі лоб, прамы, з няўлоўнаю гарбінкаю нос. Валасы кароткія, аднак не ў дробныя кудзеркі, як руно, а — густы падрослы вожык, і такая самая кароткая кучаравая бародка. Вызначыць колер вачэй у прыцемку не ўдалося, але яны падаліся агатавымі, не, лепей сказаць — чорнасліվовымі.

Выратавальную, як выглядала спачатку, думку — затэлефанаваць некаму з сяброў і, вымысліўшы праўдападобную прычыну, папрасіцца нанач — я цвёрда пастанавіў не разглядаць. Па-першае, час набліжаўся да поўначы. Па-другое, хатні тэлефон стаяў на паліцы ў кабінеце, і тамсама, на стале побач з рукапісам, я пакінуў мабілку. Па-трэцяе, госць, хоць і ствараў у кватэры напружанне, відавочна не ўяўляў сабой непасрэднай пагрозы.

Апрача таго, кожны з нас знойдзе ў памяці прынамсі адно здарэнне, якое аніяк немагчыма вытлумачыць у звыклай сістэме матэрыялістычных каардынат.

Карацей, ад намеру сысці да сяброў, або на недалёкі адчынены ўначы аўтавакзал, або проста на лавачку ў парку каля ракі, бо ноч была аксамітава цёплай, я адмовіўся. І не без палёгкі. Едучы да сястры, я пастанавіў унікаць сустрэч са знаёмымі, каб не парушыць неабходнай адзіноты. Дый адваротны варыянт — сыход з дому — стаўся б маладушнымі ўцёкамі. Хто ведае, што атрымалася б у выніку. Напрыклад, ці не была б кватэра, калі я вярнуся, зачыненая на засаўку з сярэдзіны?

Дзеля смеласці я выцадзіў новы келіх віна, пасля чаго досыць бадзёра накіраваўся ў спальню, дзе, зачыніўшы дзверы, прылёг на неразасланы ложак і вымкнуў святло. Адчуванне *ягонай* прысутнасці не пакідала. Круцячыся на ложку, што зрабіўся страшэнна

мулкім, не раўнуючы, як у матрац нехта падступна насыпаў жвіру, а падушку наладаваў пілавіннем, я ўспомніў *маміны вяртанні*.

Пасля пахавання мамы сястра штоночы прачыналася роўна ў дваццаць хвілін на трэцюю ад таго, што адчувала несумнеўнае маміна з'яўленне. Яна тады спала ў маім цяперашнім кабінеце, бо мама прамовіла апошнія словы якраз там, дзе я зараз варочаўся з боку на бок, страціўшы ўсякі спадзеў знайсці зручнае месца. У сваю сённяшнюю спальню сястра перасялілася толькі пасля ўгодкаў мамінай смерці.

Мама заўсёды вярталася сюды, у пакой, дзе развіталася з намі, затым, паводле слоў сястры, выходзіла ў гасцёўню і доўга стаяла там каля вакна, гледзячы ў яго праз свае акуляры з чарапахавай аправай, ды ніколі не пераступала парогу вітальні.

Першыя дні сястра баялася, а потым прывыкла, аднак да трэцяе гадзіны ночы — пакуль мама не развітвалася з роднымі сценамі — ляжала без сну. Але ў адну з начэй не прачнулася, і мама з яе паслясмерця больш ніколі не завітвала.

З візітамі мамы было збольшага зразумела. Яна, пакуль канчаткова не знайшла сабе месца ў новых, таемных для нас сферах, прыходзіла дамоў. Адкуль жа і чаму акурат у нашай кватэры з'явіўся Чорны чалавек? Што ў яго за мэты? З якой такой прычыны ён абраў менавіта кабінет? З сумам падумалася, што мара вярнуцца дахаты з новай аповесцю мае высокія шанцы пайсці дымам.

## 9

Трэба было неяк датрываць да раніцы. Мой лёгкі хмельны кураж тым часам стаўся ўспамінам, але задача выглядала цалкам рэальнай, паколькі Чорны чалавек не дэманстраваў варожых намераў.

Я падняўся і выйшаў у калідор. Зачыніў дзверы ў гасцёўню, зрабіў тое самае з усімі астатнімі, акрамя дзвярэй кабінета і кухні, да якіх не рызыкнуў набліжацца. Пасля, зачыніўшыся ў спальні, разаслаў ложак, разнасцежыў вакно, што выходзіла на паркоўку пры гатэлі, і лёг. Позняй парою паркоўка, на жаль, азвалася не ўтульнымі зямнымі гукамі, якіх прагла знерваваная душа, а густой глыбокай цішынёю.

Каб заснуць, я паспрабаваў вынайдзены ў гады студэнцтва досыць дзейсны спосаб: у адваротным парадку, ад апошняга да першага, згадваць імёны нашых вялікіх князёў і каралёў. Звычайна ўжо недзе на сярэдзіне, прыкладна на Жыгімонце Аўгусце або на ягоным бацьку Жыгімонце Старым, жанатым з італійкаю Бонай Сфорца, думкі пачыналі блытацца ў прадчуванні блізкай дрымоты, і астатнія манархі маглі адно прысніца. Гэтым разам мае намаганні скончыліся тунна. Аўгусцейшыя асобы, пакінуўшы старадаўнія партрэты і няроўна пашыхтаваўшыся, кпліва зіркалі на бяссонніка, а Бона з нялюбай нявесткаю Барбарай Радзівіл нечакана аб'ядналіся ў непрыхавана здзеклівым смеху.

Дапамога з’явілася, адкуль я яе не чакаў. У начной вусцішы натхнёна зазвінеў і спікіраваў на мяне камар. Ён падаўся стварэннем бясконца зямным, блізкім і родным. Беспаспяховае, але шчаслівае змаганне з камаром і дазволіла заснуць.

Я не назваў бы сон спакойным і ціхамірным. У ім мроілася, што я ўскокваю ад рыпення дзвярэй і вачам адкрываецца іхні пусты прахон, які, між тым, зусім не пусты. Пасапраўднаму глыбока заснуць удалося тады, калі ў вакно разам з радасным званком самага ранняга трамвая нарэшце зазірнуў світанак.

## 10

Раніца падаравала развітанне з тэатрам сціхотных ценяў. Дапамог і кароткі начны дождж, што пакінуў мокрыя газоны ды лужынкі на падсохлым асфальце, якія павінны былі вось-вось дазвання знікнуць разам з рэшткамі трывогі. Яшчэ лежачы ў ложку, я мог бы прысягнуць, што больш у кватэры нікога няма.

Паснедаўшы аўсянкай, я з кубкам гарбаты і слоўкай у шакаладзе за шчакой смела зайшоў у кабінет. На сонечнай стальніцы, як і на зялёнай канапе, нічога — калі не лічыць, што разрадзіўся сотавы тэлефон, — не перайначылася. Акурат затэлефанавала з санаторыя сястра. Мы паразмаўлялі на звычайныя ў такіх выпадках тэмы, і я лёгка развітаўся з прамільгнулым жаданнем запытацца штось-

ці накшталт: *Ці не заўважала ты калі-небудзь у пакоі з кнігамі нечага дзіўнаватага?*

Словы-ключыкі пачалі пераўвасабляцца ў сказы і абзацы раней, чым я сеў за стол. Начныя прыгоды надзіва не заміналі, а — прынамсі, хацелася так думаць — абвастрыўшы пачуцці, спрыялі руцэ з асадкай. Нечаканы візітант цяпер успрымаўся чымсьці сугучным маім таксама начным героям, маленькая сябрына якіх удзень распадалася на незнаёмых між сабою чужых людзей.

Нядаўняя прысутнасць Чорнага чалавека ніяк не адчувалася ці, можа, выявілася адно ў тым, што я зноў, ды ўжо асэнсавана, не пайшоў купацца. Урупіўшыся ў тэкст, проста забыўся на начнога госця, але, калі за вакном зашарэла, у душы зварухнуўся неспакой. Чорны чалавек зараз не выглядаў плёнам гульні ўяўлення, якое ўчора на знак падзякі ці пакарання за нешта намалявала тую невераемна жывую карціну — ажно да адметна загнутых мыскоў блазенскіх пантофляў.

І надышоў момант, калі ўва мне прагучаў выразны загад ставіць на сёння кропку, іначай у кабінеце можа зрабіцца зацесна. Без панікі адступаючы на кухню, я не забыў прыхапіць мабілку, халаднаватая пластыкавая рыбінка якой прыкметна дадавала ўпэўненасці.

## 11

Чорны чалавек з’явіўся той самай парою. Праўда, цяпер ён сядзеў на канапе не закінуўшы

нага на нагу, а роўна, з пакладзенымі на калені рукамі. Яго сур'ёзная і ўадначас мірная пастава спадабалася мне значна болей, хоць, зрэшты, што тут магло асабліва падабацца?

Удзень я з дому не выходзіў, таму вячэра была падобнай да ўчорашняй як дзве кроплі вады. Праўдзівей — не вады, а віна, бо разам з рэшткамі халоднага языка чакаў недапіты шыраз. Зрабілася ясна як божы дзень, што Чорны чалавек — наведнік невыпадковы і датычна яго трэба выбудаваць адпаведную лінію паводзін. Няхай, вырашыў я, гэта будзе палітыка асцярожнага нейтралітэту з магчымымі дыпламатычнымі кантактамі.

Калі б Чорны чалавек паседжваў на канапе раней, сястра неадменна б папярэдзіла мяне і без лішніх роспытаў. Адсюль вынікала, што ягонае з'яўленне звязанае якраз з маім прыездам і, відаць, з тым, чым я займаюся.

Перад сном я зачыніўся ў спальні і паспрабаваў чытаць захопленага з дому Марка Аўрэлія. Утульны томік разгарнуўся на кнізе сёмай: *Усё матэрыяльнае вельмі хутка знікае ў сусветнай сутнасці… І памяць пра ўсё не менш хутка знаходзіць сваю магілу ў вечнасці*. Не сказаць, каб сентэнцыя надта спрыяла добрым снам. Я перагарнуў некалькі старонак. *Уяві, што ты памёр, што жыў толькі да гэтага моманту…* Дачытаўшы да канца, я быў узнагароджаны: *…а час, што табе застаўся, успрымай як дадзены звыш адмеранага і жыві ў ім згодна з прыродай*.

Я нечакана супакоіўся: *жыві ў ім, жыві ў ім…* і на мяжы явы і сну працягнуў: *жыві ў ім… пры*

*ім... за ім... над ім... ім...* Думкі блыталіся, ды, адплываючы ў сон, я паспеў згадаць дасціпна заўважанае калісьці, што *імператар* Марк Аўрэлій стаўся адно выпадковасцю, якая напаткала *філосафа* з тым самым імем. *Прысніцца можаце абодва*, запрасіў я, але з Маркам Аўрэліем у тую ноч спаткаўся хтосьці больш шанцоўны.

12

Штораніцы з кубкам першай, наймацнейшай за цэлы дзень гарбаты я перачытваў напісанае напярэдадні і вяртаўся да сваіх танцораў. А мо гэта яны вярталіся да мяне, і я па чарзе нейкай часткаю істоты ператвараўся ў аднаго ці ў адну з іх, не мінаючы і Коткі. Каб перанесціся ў іхні свет, часам я нават пачынаў танчыць, робячы зусім маленькія, адпаведныя памерам кабінета колы. Нарэшце хтосьці з маіх нябачных, ды ўсё больш адчувальных партнёраў дакранаўся мне да рукі або да пляча. Гэта і служыла знакам таго, што вяртанне здзейснілася. На колькі гадзін я забываў і пра Чорнага чалавека, і, калі выпадала шчаслівая карта, пра ўсё астатняе.

13

Травеньская ноч была цёплая і чуйная. Шчыльныя аблокі захінулі месяц і зоркі, аднак, ратуючы

наваколле ад цямрэчы, злёгку свяціліся самі. Як звычайна, мы збіраліся па адным, але Залацістая з Коткай заўсёды чакалі астатніх каля квадратнага люка, усё роўна як і не пакідалі даха з мінулага разу.

Тонка праспявала нябачная страла, і ўслед за ёю недзе ўзляцела рука таямнічага дырыжора. Узляцела і застыла ў найвышэйшай кропцы, каб праз няўлоўнае імгненне даць сігнал музыкам...

Мы паспелі прайсці некалькі колаў, мяняючы хуткасць ды кірунак і пакрысе напаўняючы танец усё большай энергетыкай, як раптам нас зрабілася не шасцёра, а сямёра.

У паветры ціха прашамацелі крылы, і на плячук Гімнасткі апусцілася дзіўная начная птушка, падобная да грака, але з двума ярка-зялёнымі пералівістымі пёрамі на баках і такой самай аблямоўкаю чорнай шыі. Трэцяе пяро — доўгае і вузкае, спакойнага салатавага колеру — птушка трымала ў дзюбе. Прыгледзеўшыся, я зразумеў, што гэта не пяро, а стрэлка аеру.

Як выглядала, ні Гімнастка, ні хто-небудзь яшчэ з танцораў, апроч мяне, не заўважыў нябеснай госці. Адно Котка наструнілася і наставіла поўсць так, што стала добра відаць ейная абсалютна круглая ружовая плямка-пячатка, выпаленая некім ці нечым на падчарэўцы справа. Але праз хвілю наша пільная чатырохногая танцорка ўжо ўсім сваім выглядам паказвала, што ніякае небяспекі яна не адчула.

Птушка не замінала танцу, і ён ні на момант не перапыняўся — ні тады, калі мы мяняліся месцамі, ні тады, калі, працятыя сціхотнай самотаю, браліся за рукі. Толькі перад тым як — быццам на нечы

загад — мы павінны былі абняць адно аднаго за плечы, зрабіўшы нашае кола зусім вузкім, птушка паднялася ў паветра. Трымаючыся кірунку агульнага руху і не выпускаючы аеравай сцяблінкі, яна пачала лётаць над намі нізкімі коламі — нібы таксама брала ўдзел у танцы.

Калі невідочныя музыкі, папярэджваючы нас пра небяспеку, зайгралі зусім ціха і мы яшчэ раз узяліся за рукі, каб далей танчыць, заплюшчыўшы вочы, птушка зноў апусцілася на плячо Гімнасткі. Няўжо наша зялёнапёрая госця наперад ведала, што цяпер яна найбольш патрэбная менавіта дзяўчынцы, што на сваіх цёплых спружыністых ступачках найчасцей датанцоўвала да самага краю?

Птушка заставалася з намі да той хвіліны, калі напрыканцы мы ўскінулі рукі да зорак...

## 14

У наступны, спякотны, як і папярэднія, дзень нарэшце ўдалося надвячоркам сустрэцца з возерам.

Заўсёдна адплыўшы падалей ад невялікага пляжу і базываднальжнікаў, я перавярнуўся на спіну, раскінуў рукі ды, унармаваўшы дыханне, пакінуў вачам толькі неба. Па ім плыла ўсяго адна круглявая белая аблачынка. *Манада*, падумаў я. Маё небездакорнае параўнанне, магчыма, упадабаў бы знаёмы філосаф, які аднойчы, седзячы ў позе лотаса, паведаміў: *Людзі ўжо не цікавяць. Выключна аблокі*. Мяне,

адрозна ад філосафа, пакуль што займалі і людзі, а таксама падобныя да іх істоты, прынамсі адна, сустрэча з якой чакала ўвечары.

Небу, цікавасць да якога пакуль не зрабілася непадзельнай — нібыта яно прачытала мае думкі, — заманулася трохі пазабаўляцца. Чародка аблокаў, што з'явілася з-за зубчатага краю лесу, неўзабаве пачала пераўтварацца ў невялікі бестыярый: першая аблачына набыла абрысы грыфона, другая выдавала на кентаўра, за ім даволі шпарка рухаўся велізарны вусень, які ўвачавідкі дзяліўся на мудрагелістыя часткі, якія мелі нешта агульнае з маімі танцорамі на даху і нават з начным госцем…

Ідучы лясной дарогаю, я быў гатовы да першых эксперыментаў. З часам разлічыў дакладна і на нашым трэцім паверсе быў, маючы ў запасе прыкладна гадзіну.

Пад правую руку Чорнаму чалавеку, калі ён зойме заўсёднае месца, я паклаў томік Марка Аўрэлія. З супервокладкі ў скептычным здумленні пазіраў сам барадаты мысляр, які нібы падказваў разгарнуць кнігу на сотай старонцы.

Вока прабеглася пачаткамі абзацаў: *Не аддавайся цалкам палёту свайго ўяўлення… Куды б ні патрапіў, можаш быць шчаслівы…* Гучала надзіва жыццесцвярджальна.

Другі эксперымент здаваўся больш складаным. На іншым краі канапы я, запрашаючы Чорнага чалавека ацаніць плён маіх трохдзённых намаганняў, пакінуў акуратны стосік спярэшчаных дробнымі радкамі аркушаў,

спачатку падступна ператасаваўшы іх, як калоду карт.

Трэці тэст можна назваць хуліганістым: на стальніцу насупроць звыклага госцевага месца быў пастаўлены келіх віна.

У той вечар я не зачыніў перад сном ніводных дзвярэй. Прычынаю паслужыла не дапітая новая пляшка шыразу, пасля якой планавалася весці цвярозы — ажно да апошняга сказу — лад жыцця. І, пагатоў, не сюжэт з вечаровага выпуску тэленавінаў, дзе светласкуры кат ісламістаў, відавочны еўрапеец, рыхтаваўся адсекчы галовы тром палонным лівійцам, такім чынам закрываючы ім шлях у мусульманскі рай з гурыямі ў вечназялёных садах. Рэч у іншым: я ўжо ўспрымаў Чорнага чалавека часткаю майго свету, непазбежнасцю, з якой наканавана суіснаваць, не губляючы годнасці, а нават гумару і самаіроніі.

## 15

Марк Аўрэлій сустрэў уранні разгорнутым на той самай старонцы. Аркушы ў стосіку не былі раскладзеныя па парадку, а віна ў келіху паменела роўна на столькі, колькі паспелі выпіць дробныя мушкі, што прыляцелі ад кухоннай вазы з садавінай і прывіталі мяне, шчасліва боўтаючыся ў шыразавай нірване.

Зрабілася, далібог, смешна з таго, што яшчэ ўчора мае, далікатна кажучы, навылёт сумнеўныя эксперыменты ўспрымаліся

сур’ёзна і важка. Можна ўявіць, што начны візітант, пашамацеўшы кнігай, не даўмеецца пакінуць яе на тым самым разгорце... Зрэшты, метафізічным стварэнням, да якіх ён, бясспрэчна, належаў, зусім неабавязкова перагортваць старонкі, каб даведацца іхні змест, гэтаксама як і няма ніякай рахубы раскладаць паводле нумарацыі пераблытаныя старонкі, каб прачытаць першыя раздзелы аповесці.

Тым не менш я ўцягнуўся ў гульню і штодня прыдумляў нешта новае. Напрыклад, у стосе старонак чарнавіка кожную цотную клаў дагары нагамі або хаваў кожную няцотную паміж тамамі Эдгара По. Трэба, дарэчы, зацеміць, што пакінутая на пісьмовым стале мабілка, адрозна ад першае ночы, ніколі не разраджалася, сведчачы, што тады тое здарылася выпадкова.

Неяк па дарозе з возера памяць падсунула задаўненую гісторыю пра знаёмага мастака, з якім калега вёў зацятую вайну за майстэрню. Стратэгічнай зброяй быў абраны блакітны парашок, якім пасыпалася падлога ў калідоры. На парашку адбіваліся сляды жаночых туфлікаў, што давала падставы абвінавачваць канкурэнта ў амаральных паводзінах. Ідэю з парашком — хоць і звабліва было б убачыць сляды шырокіх пантофляў з загнутымі мыскамі — я адкінуў, злавіўшы сябе на думцы, што калі б Чорны чалавек сёння, вядома, па-свойму, метафізічна, не матэрыялізаваўся, мне б яго не хапала.

## 16

Безумоўна, вашае права не даваць мне веры, не чытаць далей або дачытаць і лічыць аўтара ціхім вар'ятам з літаратурнымі схільнасцямі. Але, на шчасце, тая гісторыя ў спякотным ліпені мінулага года напраўду здарылася, што нейкім чынам пацвярджае і сам гэты тэкст.

## 17

Аповесць, між тым, напоўнілася героямі ды падзеямі і жыла сваімі барвамі, пахамі і гукамі. Апошніх атрымлівалася меней, чым зазвычай, бо самнамбулы танчылі ў поўнай, калі не лічыць посвісту ластаўчыных крылаў, маўкліні.

Не сказаў бы, што пяро лётала па паперы, аднак яно не буксавала, не захрасала ў небяспечнай субстанцыі тэксту, не прыводзіла нявызнанымі сцежкамі да тупіковага завулка з крапівой і дзядоўнікам, куды прагнецца закінуць ненавісны рукапіс, каб назаўсёды забыць пра яго.

Чорны чалавек наўрад ці, як уявілася напачатку, дапамагаў. Ён, мо таму, што з'яўляўся ўвечары, не падказваў нечаканых сюжэтных хадоў, але і не пярэчыў напісанаму. Аднаго разу ён не сядзеў на канапе, як раней, а прылёг на яе нагамі да дзвярэй, закінуўшы рукі за галаў. Колькі разоў, трохі лякаючы мяне, ён стаяў у сутонні насупроць кніжных паліцаў. Але ніколі не пакідаў кабінета, дзе на начныя

гадзіны рабіўся паўнаўладным гаспадаром. Ён не ўмешваўся, а толькі прысутнічаў. Тут хавалася свая таямніца, і я думаў, што без Чорнага чалавека жыццё плыло б сумнавата. Больш за тое: я пачаў адчуваць да пунктуальнага госця нешта кшталту ўдзячнасці, што, зрэшты, не замінала працягваць гуляцца ў свае дзіцячыя, па сутнасці, эксперыменты.

Дайшло да таго, што — у апошні момант, калі Чорны чалавек ужо быў у дарозе, — я паставіў на пісьмовы стол знойдзеную ў сястры недапітую бутэльку каньяку з двума кілішкамі і хуценька напісаў цыдулку: *Дабранач! Калі захочацца, наліце і гаспадару.*

Бліжэйшыя падзеі паказалі, як легкадумна я паводзіўся.

## 18

Таго дня падчас выправы на возера мне заманулася замест традыцыйнага заплыву ўсцяж берагавой лініі здзейсніць невялікае падарожжа на другі бок, дзе, паводле маіх разлікаў, зацвілі белыя лілеі.

Я неблагі плывец і, здаралася, перамерваў не надта шырокае ў тым месцы возера па тры разы туды і назад без адпачынку. Прычым добра ведаў, што на процілеглым баку з ягоным бузяна-багністым дном выходзіць на бераг не проста непрыемна, але і вельмі небяспечна. У вечна каламутнай вадзе там таілася мноства карчоў, таплякоў і цэлых дрэваў, абрынутых з падмытага краю.

Зрэшты, я дакладна ведаў, адкуль паварочваць назад, што, праўда, аднойчы не ўратавала. Два гады таму, плывучы на спіне, я безразважна захапіўся і моцна параніў сябе аб схаваны пад вадой слізкі і востры, бы корд, сук, на якім пры іншым збегу абставін мог бы павіснуць, як рыбіна на кручку. Назад, пакідаючы рудаваты ад крыві след, я з астатніх сіл плыў кролем, а на беразе напалохаў афіцыянтак летняй кавярні, куды прыбег перавязаць рану.

Цяпер ні на хвілю нельга было выпускаць з-пад увагі надзейную для такой пары дня прыкмету: доўгі густы цень, што адкідала ў возера нечакана высокая і стромкая для дрыгвяністага берага яліна. Калі ўявіць сябе караблём, цень мог служыць бакенам, за якім ляжала небяспечная частка акваторыі.

На сярэдзіне возера я лёг на спіну і доўга гайдаўся на хвалях ад катараўваднальжнікаў, што наразалі вакол мяне далёкія кругі. Выдатна памятаю: сумоўе з небам у той дзень дарыла невераемна моцнае, як ніколі раней, адчуванне, што наперадзе сапраўды цэлая вечнасць.

Далей я, поўнячыся шчасцем ад суладнасці душы з целам, лёгка паплыў таксама на спіне, а адчуўшы набліжэнне берага, перайшоў на павольны брас.

Наперадзе паказалася спачатку цёмназялёнае, з ружаватым сподам круглае лісце, а затым і самі лілеі, што яшчэ радаваліся нізкаму сонцу. Я наважыўся даплысці да першых кветак, балазе сіні цень ад яліны ляжаў далекавата. Хацелася выбраць буйную, шчодра расцвілую лілею, асцярожна ўзяць яе

ў руку і, заплюшчыўшы вочы, удыхнуць тонкі непаўторны водар, што з дзяцінства хваляваў душу, нараджаючы несканчоныя ланцужкі ўспамінаў і асацыяцый.

Да найбліжэйшай лілеі заставаліся два-тры спакойныя грабкі, як мой рамантычны настрой каменем пайшоў на дно. Я з жахам, неверагодным чынам часткова тэлепартаваўшыся ў сястрыну кватэру, убачыў Чорнага чалавека. Ён не сядзеў на канапе, а стаяў у дзвярах кабінета. У дзвюх чарнаслівінах ягоных вачэй зырка гарэлі агеньчыкі маленькіх свечак. Ад нечаканасці я ніштавата хлебтануў вады. Насланнё не знікала. Каб абагнацца ад яго, я даў нырца, але там, пад вадой, чамусьці не паплыў наперад да лілеяў, а рэзка ўзяў убок. Вынырнуўшы, я па-ранейшаму бачыў Чорнага чалавека, які яўна збіраўся выйсці з кабінета. Зноў глынуўшы цёплай і ўжо не надта празрыстай тут азёрнай вады і дазвання забыўшыся пра намер павітацца з лілеямі, я — колькі змогі — паплыў назад. Чорны чалавек стаяў у дзвярах, пакуль мае ногі не намацалі тугі пясок роднага берага.

Адпачываючы пад маладым ясенем, з якім некалі мы былі роўныя ростам і з якім я цяпер кожнага разу вітаўся, тройчы прыкладаючы далонь правай рукі да вялікай круглай шышачкі на стаўбуры, і пазней, дарогаю дахаты, я мучыўся над тым, што можа азначаць з'яўленне начнога госця сярод белага дня і з відавочна іншаю мэтай.

Вярнуўшы памяць назад, я разгледзеў дэталі. Чорны чалавек меў высокі рост і не вельмі

шырокія, але адпаведныя яму плечы. Па ягонай шчыгульнай чорнай апранасе хутка і трывожна бегалі серабрыстыя бліскаўкі. Ногі… ногі былі босыя, як быццам ён спяшаўся і не паспеў абуцца. Бліснула згадка пра мастацкі прыём з блакітным парашком перад дзвярыма майстэрні. Цікава, чым усё ж скончыўся б такі эксперымент у маім выпадку? Якія б сляды ён пакінуў і ці засталіся б яны ўвогуле? Наўздагон недарэчна падумалася, што для парашку добра было б абраць зялёны колер.

## 19

Паварочваючы ключ у замку, я ведаў: кватэра пустая, аднак трывога не пакідала і старонка перад вячэрай засталася мараю.

Ноч выдалася неспакойнай. Калі за вокнамі сцямнела, Чорны чалавек — цяпер не басаногі, а ў сваім незвычайным абутку — заняў звыклае месца на канапе, як у першы прыход, адкінуўшыся на падушкі . Міралюбная пастава мусіла б супакоіць, ды гэта быў другі ягоны візіт за дзень, і я абсалютна не ўяўляў, чаго чакаць уначы.

Перад сном я пазачыняў дзверы і ў спадзеве на новы ратавальны прылёт камара адчыніў вакно. Я гатовы быў з радасцю здаць кроў, ды камары, на жаль, недзе прапалі. Мой унутраны краявід дыхаў неспакоем і цьмяным прадчуваннем нядобрага. Бясконца пракручваючы перад вачыма дзённую прыгоду, я нават адчуў у роце выразны прысмак азёр-

най вады. Хацелася прагнаць яго мінералкай, але я трываў і не ішоў на кухню, баючыся, што Чорны чалавек зноў выйдзе на парог кабінета, а мо і рушыць далей. Урэшце, ён мог, жудліва бліскаючы свечкамі ў вачах-чарнаслівінах, паўстаць і ў дзвярах спальні.

Мяне наведала непамыснае адкрыццё: людзі, якія нібыта спакойна і ціхамірна паміраюць у сне, насамрэч могуць разлучыцца з жыццём зусім іначай, а менавіта ў выніку сустрэчы з гасцямі кшталту Чорнага чалавека.

Канец ночы і праўда выпаў такі, што можна было і не перажыць. Нехта стукаўся ў вакно. У сне я ведаў, што жыву на трэцім паверсе, ды гэта не давала палёгкі, бо высветлілася, што той нехта стукаецца ўжо і з люстэрка ў цёмнай вітальні. Я шукаў рукой уключальнік і намацваў яшчэ нечую руку. Тамсама, у снетрызненні, галаву бясконца свідравала думка-жахалка: *Я ніколі не кладуся спаць, але заўсёды прачынаюся.*

Прарвацца ў мой сон Чорны чалавек усё ж не патрапіў, хоць, найверагодней, ён і не меў такой мэты. Дый гэта быў і не сон, а нейкая прамежкавая паміж сном і яваю трэцяя прастора.

Між тым, прынесшы невыказную палёгку, ленавата прачнулася гатэльная паркоўка.

## 20

Назаўтра героі маёй аповесці пераважна адпачывалі. Ледзьве агораўшы адзіную няшчас-

ную, крэмзаную-перакрэмзаную старонку, я выправіўся на возера значна раней і ў лесе спахапіўся, што не ўзяў ручніка.

Але паплаваць усё роўна не выпала.

Бераг сустрэў нязвычнай мітуснёй, якая, тым не менш, мела сваю логіку і пакуль незразумелы сціхотны парадак.

Каля пляжа стаялі на прычале абодва катары воднолыжнай базы, на якія грузіліся аквалангісты. Воддаль, пад старым клёнам, наўзрыд плакалі дзве жанчыны — старэйшая, з сівізною ў валасах, і юная, з рыжаю стрыжкай.

Неўзабаве я ўсё ведаў.

Учора ўвечары пад самым тым берагам патануў юнак, што прыехаў да бацькоў на студэнцкія вакацыі. Магчыма, выцяўся галавой аб тапляк, калі даваў нырца, або напароўся на падводны корч, або — трэцяя версія — заблытаўся ў багавінні і галлі паваленых вольхаў і бярэзін. З размоў воднолыжнікаў і аквалангістаў вынікала, што сёлета вада апусцілася значна ніжэй штогадовага роўню і на той бок возера нельга было плаваць інакш, як на лодцы.

Кроў ударыла ў скроні, і я бяссільна апусціўся на траву. Выходзіла, што ўчора Чорны чалавек ратаваў мяне ад смерці. Я ўявіў слізкі дотык затопленага дрэва, што даўно жыве сваім мёртвым жыццём, або вусцішны падводны козыт абседжаных ракавінкамі галінаў і, скалануўшыся ад агіды і жаху, з цяжкасцю ўтаймаваў ваніты.

## 21

Аквалангістам не давялося доўга шукаць.

Тапельца ў сініх плаўках з залатой кітвагай, перадаючы з рук у рук, перанеслі з катара на цёплыя серабрыстыя дошкі прычала. Малады, пасінелы твар у аблямоўцы светла-каштанавых валасоў складана было назваць спакойным і прыгожым: у скрыўленых бяскроўных вуснах застыла разуменне загубы. Рукі з развітымі цягліцамі склалі на грудзях, і стала відаць, што на целе няма ранаў. Значыць, возера — не, не яно, а той бераг, што заўжды трымаўся сваіх апрычоных законаў, проста злавіў юнака ў свае смяротныя мярэжы.

У левым вуху тапелец меў завушніцу з перлінкай, якая зараз дзіўным чынам выглядала жывейшаю за яе ўладальніка. Сярод аквалангістаў была адна дзяўчына. Яна паклала на грудзі тапельцу прывезеную з таго боку лілею, і кветка імгненна пачала сумовіцца з перлінкай, прывёўшы на памяць шырокавядомы цяпер панятак «эстэтыка жаху».

Утнула жудліва-недарэчная думка, што ўчора я так і не ўдыхнуў лілейнага паху, а *ён*, пэўна, паспеў. І наўздагон новая: *ён ляжыць тут замест мяне*. Тым часам ружавата-зялёнае колца, у якое дзяўчына-аквалангістка закруціла доўгую сцябліну лілеі, раптам раскруцілася, і кветка, найбольш напалохаўшы саму аквалангістку, з'ехала тапельцу на жывот.

Нічога больш убачыць я не паспеў: пад галашэнне старэйшай жанчыны і жалобнае маў-

чанне маладой, якая выплакала ўсе слёзы, тапельца паклалі ў доўгі чорны мех і, зашпіліўшы яго на маланку, павезлі ў трупярню.

## 22

Карузлік зайшоў у пусты трамвай за тры начныя прыпынкі да майго канцавога. Калі ён наблізіўся, я заўважыў, што ягоная галава акурат мне пад паху. Карузлік, нібы шукаючы спагады, узяў мяне за рукаво. Ён горка плакаў буйнымі, як у чалавека нармальнага росту, слязьмі.

Я не ведаў, што рабіць. Каб гэта было дзіця, я, пэўна, прытуліў бы яго да сябе і пагладзіў па ўскудлачаных валасах, ды побач стаяў дарослы мужчына, які пабачыў у жыцці прынамсі не менш, калі не больш, чым я.

Паміж усхліпамі карузлік мармытаў штосьці няўцямнае на нейкай, як здалося, тарабарскай мове. Знячэўку сярод гэтага мармытання выразна прагучала: *Я ведаю.*

Нібыта ўзрадаваўшыся, што ў яго атрымалася вымавіць зразумелыя словы, карузлік узяўся паўтараць іх з зацятасцю дзіцяці, якое хоча ў нечым прызнацца або штосьці паведаміць, аднак яшчэ не ўяўляе як. *Я ведаю, я ведаю, я ведаю...*

Каб вывесці карузліка з гэтага трансу, я гладзіў яго па плячы. *Што ведаеце? Што вы ведаеце?*

Ён заплакаў яшчэ больш горка. Я ўсё ж не вытрымаў і пагладзіў яго па даўно нястрыжанай галаве. *Я ведаю... Котка... Котка... Котка... Я не магу... Чаму там не было мяне?.. Котка...*

Я страсянуў яго за вузкія плечы. *Якая, якая котка*?

І тут ён раптам выцер кулакамі слёзы, паказаў пальцам, каб я нахіліўся, і хуткім гарачым шэптам, нібы пароль, прамовіў мне ў вуха: *Гатэль*.

Пакуль я асэнсоўваў пачутае, карузлік неверагодна хутка высушыў слёзы. Крутануўшыся на абцасах, ён змяніў тон на амаль вясёлы і, разпораз падскокваючы ледзьве не на вышыню свайго росту, пачаў выгукваць: *Ёрыкі-морыкі! Пікапутрыкапу! Ахалай-махалай! Налівай-вылівай! А нас, шаноўная публіка, між іншым, вязе трамвай без вагонаважатага!*

Паколькі з публікі ў трамваі прысутнічаў толькі я, карузлік імпэтна ўчапіўся ў маю руку і пацягнуў у галаву вагона. *Прррашу пераканацца! Прад'яўляю пустую кабіну*! Я зірнуў праз шкло: месца вагонаважатага сапраўды было пустое.

*Наступны прыпынак — канцавы*! — абвясціў адсутны вагонаважаты жаночым голасам.

*Гіпноз*, падумаў я. *Ён жа, здаецца, працаваў у цырку*!

Але адкуль карузлік ведаў пра Гатэль і Котку?..

## 23

Калі верыць таму, што лінія жыцця на чалавечай руцэ перад нечаканай смерцю мяняецца, на далоні хлопца з завушніцай — учора ці раней, калі лёс зрабіў фатальны паварот і пачаўся новы адлік ягонага часу, — узнікла новая рыска. Але які ў тым сэнс, калі яна не

пякла агнём, не змагла засцерагчы, утрымаць, і ён, дакладна, як я ўчора, разагнаўшыся, кінуўся са спякотнага дня ў чыстую халаднаватую ваду. Магчыма, пасля спаткання з рыжавалосай…

Я міжволі паглядзеў на свае далоні і адразу ўспомніў, што правая рука адлюстроўвае жыццёвы шлях, левая ж — прыроджаныя здольнасці і таленты, у прыватнасці, тое, наколькі моцна развітае ў вас уяўленне. Адказная за яго лінія была на месцы і сведчыла: недахопу фантазіі пакуль можна не баяцца. Усё памяталася надзіва выразна, хоць апошні раз я даследаваў малюнак гэтых ліній шмат гадоў таму, калі сустракаўся з жанчынай, захопленай хірамантыяй ды рознымі іншымі эзатэрычнымі рэчамі. Яна, дарэчы, як і заплаканая дзяўчына на пляжы, была рыжавалосай, а яшчэ, здавалася, і ўначы, хаваючы яго пад падушку, не разлучалася са сваім запаветным сшыткам. Ягоныя табліцы дазвалялі вылічыць, у абліччы каго ты выконваў прызначаную табе ролю ў папярэднім жыцці. Дзякуючы таму сшытку — і мне чамусьці падабаецца гэта раз-пораз узгадваць — я даведаўся, што ў ранейшым з’яўленні на свет, дакладней у перадапошняй рэінкарнацыі, я быў, праўдзівей, была мексіканскаю танцоркай, якая выходзіла на сцэну пры канцы васямнаццатага стагоддзя.

Пра тое, кім у глыбінях часу, за смуглявымі плечыкамі мексіканкі, я быў далей, эзатэрычны сшытак колішняй сяброўкі загадкава ці мо прадбачліва маўчаў. Значыць, дагэтуль

я заставаўся адно на пару з танцоркай, якая, прызнаюся, няраз блукала па анфіладах маіх эратычных фантазій.

Ува мне загаварыў чорны гумарыст: *Учора ты страціў найрэальнейшы шанец патрапіць у тыя табліцы, каб нарэшце сустрэцца — прынамсі, там — з мексіканскаю прыгажуняй, а некалі засмуціць або парадаваць наступніка*.

Смерць не трэба шукаць, ужо больш сур'ёзна думаў я. Яна, твая апошняя жанчына, сама знойдзе цябе, і да той сустрэчы лепей падрыхтавацца загадзя, дзеля чаго ўвогуле чалавеку і дадзена жыццё. Але ці значыла гэта, што хлопец з перлінкай, якая цяпер успрымалася змрочным знакам воднай стыхіі, быў падрыхтаваны і таму выканаў сваю ролю да фінальных слёз на вачах гледачоў, а ты знаходзішся на паўдарозе...

## 24

Бывае, у рэдкія хвіліны задаволенасці сабой, хоць значна часцей якраз дзеля ўтаймавання прыступаў укволенасці і роспачы, я кажу сабе, што ў маім жыцці ўсё, што павінна прычыніцца на шляху мужчыны, на гэты момант ужо адбылося, ды сонца пакуль высока, а таму... Тут я абрываю даволі камфортную, але небяспечную ў развіцці думку, а тады, на беразе, адолеўшы шматкроп'е, давёў яе да канца. Насамрэч усё, што магчыма, здзейснілася ў яго, хлопца ў сініх плаўках. Далей я блазнавата

працягнуў вершам: *Вы згодныя, што смерць таксама свята, яна ў жыцці бывае толькі раз*?..

А Чорны чалавек? Што паспела адбыцца ў ягоным — калі тут можна карыстацца гэтым словам — жыцці? Адно можна сказаць абсалютна дакладна: ён паспеў выратаваць мяне ад лілеі на мёртвых грудзях.

Але ж не выключана, што хлопец з завушніцай сам хацеў сысці адсюль. І ў маім жыцці калісьці быў перыяд, калі я перабіраў розныя віды самагубстваў і такі спосаб — патануць у возеры — не здаваўся найгоршым. Памяць паслужліва разгарнула старонку са здабытымі тады ведамі. Спачатку рэфлекторна перацінаецца дыханне, потым вада залівае лёгкія, дыхальная функцыя канчаткова паралізуецца і праз колькі хвілін замірае сэрца.

Ды версія самагубства не стасавалася з тым, што адбылося. Найперш — з паводзінамі Чорнага чалавека, які ўчора папярэдзіў пра рэальную небяспеку таго берага. Ці абавязкова было, каб утапіцца, плысці туды, да лілеяў? А мо ўладальнік перлінкі, наадварот, хацеў, каб усё выглядала натуральна? У такім разе цалкам дапушчальна, што ён ведаў пра тапляк ды іншую тамтэйшую вусціш і ў нейкім сэнсе вырашыў згуляць у «рулетку», маючы ў запасе, калі не спрацуе, іншы варыянт...

А можа, ён прадчуваў свой лёс, як той малады паэт, што ў дваццаць гадоў склаў геніяльную эпітафію самому сабе, якая прыдалася ўсяго праз некалькі месяцаў, калі яго на начной шашы збіла машына: *Мяне заўсёды*

*мучыла пытанне: у чым сэнс смерці? Цяпер я ведаю адказ, а вы, што засталіся, — не.*

## 25

Галава раскалвалася ад абсалютна процілеглых думак, і ў лясной засені я паспрабаваў хоць трохі навесці ў ёй парадак.

Па-першае, я зразумеў, што вельмі доўга не здолею купацца ў маім улюбёным возеры, не кажучы ўжо пра заплывы пад той бераг. Але галоўным было, вядома, іншае.

Як далёкае куванне зязюлі, як спраўная беганіна мурашак у прыдарожным мурашніку, як цёмныя кроплі ягад на чарнічніку, як тое, што я ўсё гэта бачу і чую, не падлягала сумневу, што Чорны чалавек выратаваў маё жыццё. Я не ўяўляў, як магу аддзячыць яму і ці можна тут наогул разважаць у падобных катэгорыях.

Дарогу пераходзіў вожык. Адчуўшы пагрозу, ён спыніўся, імгненна скруціўся ў клубок і цікаваў са сваіх калючак. Такі самы калючы клубок варушыўся ў душы. Не, слабое параўнанне. За пазухай, як некалі ў спартанскага хлопчыка, сядзела і грызла мяне бязлітаснае лісяня.

Раздумваючы пра няўхільнае вяртанне Чорнага чалавека ў мой часовы кабінет, я аніколі не запытаўся сябе, як ён сам, неспадзяваны і зусім нядаўна яшчэ нежаданы госць, пачуваецца на нашай зялёнай канапе. З чыёй волі ён тут, найверагодней, у абсалютна нязвыклай яму прасторы? Як сябе

паводзіць, калі ён, мой выратавальнік, чарговы раз матэрыялізуецца?..

## 26

Дома я, не знаходзячы сабе месца, усё ж сеў да стала. І тут аднекуль з-пад прытульных белых аблокаў, што як быццам прыпыніліся на выцвілым ад спёкі небе, на маю знерваваную істоту знячэўку зляцеў гаючы супакой.

Неспадзявана я напісаў цэлыя дзве старонкі. Непрыкметна наблізіўся момант саступіць кабінет Чорнаму чалавеку. *Дзякуй*, прамовіў я падымаючыся і з вітальні паўтарыў: *Дзякуй табе, хто б ты ні быў.* Другі раз голас прагучаў інакш: словы не спяшаліся растаць у паветры, а ціхім водгуллем блукалі з пакоя ў пакой. Перад вачыма ўзнікла возера, па-над чуйнай вечаровай паверхняю якога яны, мае ўдзячныя словы, цяпер нібыта звернутыя да кагосьці іншага, канчаткова заціхлі дзесьці воддаль — ці то ў зарасніках трыснягу за кладкаю з прычаленай адзінокай зялёнаю лодкай, ці то за белым трамплінам вадналыжнікаў, што, люструючыся ў незварушнай вадзе, ператварыўся ў наканечнік гіганцкай стралы, скіраванай у самае сэрца ночы.

Чорны чалавек вярнуўся. У яго паводзінах я не знайшоў нічога новага: нага, перакінутая цераз нагу, зухавата падкручаныя мыскі пантофляў… Ці з’явіўся б ён тут, каб гэта мяне зашпілілі сёння на маланку ў доўгім чорным мяху?

Гатуючы на вячэру яечню з памідорамі, я знячэўку сутыкнуўся з ідэяй новага, прычым не легкадумна-гуллівага, а паважнага і, бясспрэчна, небяспечнага эксперыменту, у параўнанні з якім былыя доследы выглядалі дзіцячымі забаўкамі. Выпіўшы некалькі кілішкаў каньяку і тым самым парушыўшы датрыманы да сёння зарок цвярозасці, я гатовы быў распачаць эксперымент неадкладна, пагатоў, калісьці любіў начныя купанні. Мой імпэт здолеў астудзіць толькі свежы ўспамін пра лілею, што знікла разам з тапельцам у чорным мяху.

Добра памятаю: каляндар паказваў сераду. Калісьці я чытаў раман, які пачынаўся словамі: *Тут заўсёды серада*. У сераду забілі галоўнага героя, і дзеянне адбывалася *пасля*.

27

У мяне пасля серады надышоў чацвер.

Але перад ім была ноч, калі я кахаўся з рыжавалосай юнай жанчынаю, што ўчора аплаквала азёрнага тапельца. Там, у сне, я ведаў: гэта — ягоная жанчына і ён зусім нядаўна пакінуў яе, аднак я не адчуваў аніякага сораму, таму што… таму што я таксама… таксама быў жанчынаю.

Мы лашчылі адна адну на шырокім нізкім ложку ў зацягнутым духмянай смугою пакоі, дзе замест шкла ў ваконныя рамы былі ўштукаваныя вялікія люстэркі. Люстэркі аздаблялі і сцены без вокнаў, і столь, што няз-

мерна пашырала прастору пакоя, ды пры гэтым не пазбаўляла яго ўтульнасці. Ані не бянтэжыла і тое, што гульня люстэркаў мела дзіўную асаблівасць: у іх адбіваліся сцены з іншымі люстэркамі, але адсутнічалі аблічча нас саміх. Праўда, пераканацца ў маім пераўвасабленні ў жанчыну было нескладана і без люстраных адбіткаў, адно што кароткая фрызура не дазваляла даведацца, якога колеру мае валасы.

Дзівосныя перамены адбыліся і з рыжавалосай. Не, яна не набыла анічога мужчынскага, ды ўсё яе суладнае маладое цела, за выняткам твару, цяпер пакрывала тонкая, густая і цёплая марэлевая поўстка, што надавала маёй партнёрцы падабенства са зграбнай гнуткаю малпачкай.

Тое, чым мы так утрапёна займаліся, дарыла неймаверную шматсэнсавую асалоду. Яна пачыналася з лёгкіх прагулянак пальцаў, што ўзаемна вывучалі сусветы нашых целаў, і зусім не заканчвалася апантанасцю вуснаў і языкоў, якія цалавалі, прысмоктвалі, пяшчотна, а то і з салодкім болем кусалі, імкнуліся пранікнуць, праслізнуць у патаемныя глыбіні... І ўвесь час мне мроіліся касачы, жоўтыя і ліловыя касачы, бо форма гэтых кветак непаўторна эратычная.

Целы спляталіся ў самых мудрагелістых фантастычных паставах, якія, тым не менш, заўсёды дазвалялі нам беспамылкова дацягвацца да патрэбных куточкаў і кропачак. Часам, з заплюшчанымі або проста прымружанымі вачыма, нашая пара ўяўлялася

мне любоўным альянсам дзвюх дасканалых чалавекамалпаў.

Мы кахаліся бясконца доўга, і, хоць стомы тут, напэўна, увогуле не існавала, целы ўсё больш нагадвалі дзве напятыя цецівы, гатовыя да срэбнай успышкі адначасовага стрэлу...

Той бязгучна-аглушальны стрэл здолеў перамагчы абыякавасць пустых вакольных люстэркаў, дзе ўрэшце з'явіліся нашыя шматкроць паўтораныя аблічча, ды ў іхнім калейдаскопе колер сваіх валасоў пабачыць ужо не выпала, бо срэбная віхура падхапіла мяне і, прабіўшы люстраныя сцены, асцярожна апусціла на знаёмы ложак, адкуль пачалося маё падарожжа.

Колькі хвілін я ляжаў шчаслівы і лёгкі, як галубінае пяро. У розных кутках цела жыла, пульсавала аксамітная памяць пра цёплую марэлевую поўстку жанчыны-малпачкі. Але ў вакно далікатна прасіўся дзень, і я гэтаксама асцярожна, таймуючы лёгкае хваляванне, пераканаўся, што я — па-ранейшаму мужчына.

## 28

Апрача ўсяго астатняга, у трактаце Тэрэнцыяна Маўра «Пра літары, склады і метры Гарацыя» даследваўся містычны сэнс літар. Містыка прысутная і ў гісторыі самога твора. У 1493 годзе манускрыпт знайшлі ў бібліятэцы аднаго з італійскіх манастыроў. Праз чатыры гады яго надрукавалі ў Мілане, пасля чаго рукапіс знік. Адзін з выдаўцоў, чалавек так-

сама схільны да містыкі, выказаў здагадку, што манускрыпт вярнуўся на дванаццаць стагоддзяў назад да аўтара, бо застаўся ў свой час незавершаным. Маўляў, як шчаслівае адшуканне, так і таямнічае знікненне трактата былі абумоўленыя зашыфраванымі Маўрам у ягоных радках формуламі-заклёнамі. Мела сваіх прыхільнікаў і версія, паводле якой, зноў апынуўшыся ў мінулым, вершаваная праца рымскага граматыка патрапіла не ў рукі яе стваральніка, а — непасрэдна да самога Гарацыя.

29

Як я ўжо казаў, на змену серадзе прыйшоў чацвер. Заварваючы ранішнюю гарбату, я ўспомніў улюбёнае выслоўе мастака, перад дзвярыма якога канкурэнт і зайздроснік рассыпаў блакітны парашок. *Секс*, любіць паўтараць ён, *дае адчуванне, што ты — жывы*. Думаць пра нядаўні сон як выключна пра — няхай сабе і фантасмагарычны — секс не хацелася, але на тым свеце такіх сноў, пэўна, сапраўды не прысніш. Выціскаючы ў кубак з гарбатай палову цытрыны, я ўявіў, што гэты сон бачыла ў сённяшнюю ноч і сама рыжавалосая. А мо — у сваім васямнаццатым стагоддзі — і мексіканская танцорка?

Хоць і праглася, я не мяняў працоўнага графіка. Жыццё паспела раскідаць маіх самнамбулаў па свеце, і галоўны герой часам

сумняваўся, ці не прымроіліся яму тыя танцы ў прывідным месяцовым святле.

Парою маёй адвячоркавай выправы да ракі ў горадзе шалела не меншая, чым апоўдні, спёка. Калі глабальнае пацяпленне не спыніцца, у нашых шыротах трэба будзе ўводзіць сіесту. Такая хада разважанняў перад тым, *што* я меўся зрабіць, прыйшлася мне даспадобы.

У некалі чыстай, а цяпер памутнелай Дзвіне ў межах горада купаліся даволі рэдка. Большасць верыла рэкамендацыям санітарных службаў і аддавала перавагу недалёкаму возеру, дзе ўчора здарылася трагедыя, ці іншым навакольным азёрам, куды нескладана было зганяць нават на ровары.

Каб не купацца ў Дзвіне, існавала і больш важкая прычына. Пасля пабудовы новага моста характар ракі ў наваколлі колішняга пляжа прыкметна змяніўся. Відаць, будаўнікі неабачліва закранулі патаемныя нізавыя плыні, зрушылі донныя камяні, засыпалі або, наадварот, пакінулі пасля сябе глыбокія яміны-бохаты. Карацей, Дзвіну нечым уразілі, і яна адказала: насупраць занядбаных, некалі жоўтых кабінак-раздзявальняў ранней задуменна-спакойная рака за які дзясятак метраў ад берага раптам пачынала цячы хутчэй і наравіста вірыцца. Гэта не было бяскрыўдным капрызам. Тут некалі патанула схопленая вірам дзяўчынка, а летась сястрын сусед апавядаў, як яго пачало круціць, бы шрубку механічным зашрубнікам, але ён, дзякаваць богу, ведаў, што рабіць у такіх вы-

